


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 12 (37) СНЕЖАНЬ 2004 г.


# З Калядамі і Новым годам!

Каляды!
Таемны й цудоўны
час адчуваньня
сваёй
спрадвечнай
існасьці.
Імкненьне
спазнаць Найвышэйшага
Якія мы перад Ім
"што быў і што ёсць
і што йдзе" (Адкр.4:8).

Па Тастаманту Любові
дадзена людзям гэтае Імя
дзеля спасеньня.
Кожны з нас вольны абраць
і прыняць Яго

Жадаем, каб вашых сэрцаў
таксама кранулася праменнае сьвятло
любові, надзеі й веры.
Усім найлепшыя зычэньні!

Аўтары кампазіцыі Т. Удруль і В. Зінкевіч

# ВЕСТКІ

На абласным злёце юных краязнаўцаў па тэме “Прыродная спадчына” першае месца занялі краязнаўцы Канcталінскай школы пад кіраўніцтвам Віктара Бунты. На злёце яны прадстаўлялі раённы прыродазнаўчы праект па выяўленню рэдкіх валуноў з мэтай іх аховы. Ініцыятарам ідэі праекта з’яўляецца В.Бунта. Акрамя вучняў Канcталінскай школы ў ім задзейнічаны краязнаўцы іншых школ раёна, Браслаўскае музейнае аб’яднанне.

У першыя месяцы ажыццяўлення праекта выяўлена некалькі дзесяткаў валуноў, у тым ліку і такія, якія падпадаюць пад катэгорыю геалагічнага помніка прыроды. Вынікі пошукаў будуць прадстаўлены на старонках краязнаўчага выдання “Павет”.



Відзаўскае дзяржаўнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 169 адзначае 50-гадовы юбілей. Арганізавана яно было ў 1954 годзе і напачатку дзейнічала ў мястэчку Опса, дзе існавала яшчэ ў польскі перыяд сельскагаспадарчая школа. У 1960 годзе вучылішча пераехала ў Відзы. За гады існавання вучылішча скончыла больш за 18 тысяч чалавек. Прафесіі, якія атрымліваюць у яго сценах, – трактарысты, вадзіцелі, экскаватаршчыкі, кухары. Ад нядаўняга часу ў вучылішчы сталі рыхтаваць леснікоў. Для дзяўчат адкрыта спецыяльнасць “Гаспадыня сядзібы”.

Сёння ў ПТВ займаецца 400 навучэнцаў па 12 спецыяльнасцях.



26-27 лістапада сярод каманд школ раёна прайшла гульня “Я – браслаўчанін”. Краязнаўцы 6-9 класаў, утварыўшы каманды, паказвалі свае веды, спрыт і ўменне лагічна меркаваць і мысліць.

Гульня складалася з прывітальнага конкурсу, конкурсу “Хто лепш ведае этнаграфію” і іншых (адзін з момантаў свята – на здымку). Краязнаўцы па памяці аднаўлялі тэксты легенд, паданняў, адказвалі на пытанні. Хатнім заданнем была дэманстрацыя-паказ старажытнай гульні, пажадана мясцовай. І ў гэтым школьнікі паказалі сябе добра. Найлепшымі былі прызнаны каманды з Карасінскай і Пеліканскай БШ, Іказненскай і Урбанскай СШ.

У склад арганізатараў і журы ўваходзілі супрацоўнікі музейнага аб’яднання.




*Калядное і навагодняе віншаванне ад вядомага беларускага мастака Георгія Паплаўскага, творчасць якога цесна звязана з Браслаўшчынай. Няхай гэты сімпатычны певень стане для нашых землякоў сімвалам жыцця і ўдачы ў новым годзе.*

* * *



У Музеі Традыцыйнай культуры 28 снежня адбылося адкрыццё выставы “Калядныя ўзоры”. Гэта традыцыйная, ужо дзесятая па ліку выстава, на якой прадстаўляюцца лепшыя вырабы народных майстроў Браслаўшчыны. У гэтым годзе яе вызначае не зусім звычайная кампазіцыя. Святочныя калядныя вырабы майстроў паказаны ў інсталяваных фрагментах інтэр’ераў жылых памяшканняў (даўняй сялянскай хаты, пакою местачкоўца). Атрымалася цікавая, запамінальная экспазіцыя. Свае вырабы на выставу прадставілі 34 майстры. Многія з іх прысутнічалі на імпрэзе. Адкрыццё выставы аздобіла выступленне ансамбля старажытнай музыкі Друйскай музычнай школы. Прысутныя змаглі азнаёміцца з экспазіцыяй падчас экскурса, паразмаўляць з майстрамі.

На шматлюднай імпрэзе панаваў узнёслы, святочны настрой.

* * *



У памяшканні гісторыка-краязнаўчага музея пачала працаваць выстава “Калядная зорка заззяла”. На ёй выстаўлена калекцыя абразоў XIX – пачатку XX стагоддзяў з адлюстраваннем Маці Божай з Немаўляткам, календары пачатку XX стагоддзя, калядныя паштоўкі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў. Ёсць вітрыны з матэрыяламі пра найбольш адметныя святыні з Браслаўшчыны – абраз пачатку XVI стагоддзя з Дрысвят “Пакланенне вешчуноў” і цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, Валадаркі Азёраў.

# Ціхая ноч ...

Ціхая ноч, дзіўная ноч...

Святая ноч прыйшла на зямлю, святая ноч прыйшла да людзей, святая ноч прыйшла... Мякка гараць у небе зоркі, нібы святочныя агеньчыкі, апчадна раскіданыя па небе руплівым гаспадаром. Вялізныя рукі магутных дрэваў цягнуцца ў вышыню, быццам ведаючы, што недзе там, далёка за аблокамі віруе сапраўднае, шчаслівае жыццё. Халодны месяц цёпла паглядае на адзінокага падарожніка, які крочыць у напрамку касцёла. Хто ён? Напэўна, адзін з тысячы, з мільёнаў людзей, якія штогод сустракаюць Каляды ў родным горадзе, у любімым куточку. Але гэты адзін любіць вандраваць, назіраць і прыглядацца да сэрца кожнай хаты, кожнага куточка, кожнага чалавека. Вы не супраць павандраваць разам з незнаёмцам па святочных вуліцах Браслава?..

Дрэмле ўсё, дый ня спіць...

Мы крочым заснежанай вуліцай горада. Адзіны ліхтар падказвае нам шлях наперад. Цёмныя вокны дамоў сумна пазіраюць нам услед. Але што гэта? Вялікі дом, упрыгожаны сотнямі агеньчыкаў зіхаціць і іскрыцца, падкрэсліваючы загадкавую цемру навокал. Руплівы гаспадар удала паклапаціўся пра святочную вопратку сваёй хаты. Ліхтарыкі пераліваюцца яскравымі колерамі лёгкай вясёлкі. На твары вандроўніка з'яўляецца ўсмешка, усмешка цеплыні і радасці. Мінаем раён прыватных крамаў, і робіцца незвычайна светла. Што і казаць, Браслаў не прызвычаіўся да такой раскошы. Святочныя ялінкі, бліскучыя агеньчыкі, зіхоткія гірлянды. "Лас-Вегас!"- усміхаецца падарожнік, накіроўваючыся ў бок новага рынка.

...: анёл вёў пастушкоў, да хлявочка, там, дзе Божы сын, меў палац у час сваіх нарадзін...

Але тут наш кіроўца прыспешвае крокі, бо заўважыў нешта надта цікавае. Прыпыняемся. Каля дома стаіць маленькі жалабок, у ім – дзіцяці. Пяшчотная маці нахілена да яго. Госці з далёкіх краінаў ласкавым позіркам пазіраюць на "святую ідылію", пакідаючы ў надзейным сховішчы сваіх сэрцаў гэтую цудоўную карціну. У вышыні ярка гарыць калядная зорка, а дрэвы зіхацяць блакітнымі і чырвонымі агеньчыкамі ліхтарыкаў. Па целу прабягае халадок, а ў сэрца прыходзіць замілаванне. Замілаванне да пабачанага і ўдзячнасць да гаспадароў, якія змаглі такім чынам упрыгожыць сваё жыллё і упрыгожыць кожнага, хто яго пабачыць.

Накіроўваемся да касцёла. Да яго яшчэ далёка, але час павінен праляцець хутка, бо мы назіраем, назіраем свята. Цікава, што людзі па-рознаму рыхтуюцца да гэтай падзеі. Вось мы бачым дзверы, упрыгожаныя акуратным вяночкам, мінаем вокны, аздобленыя гірляндамі, вось маленькі дворык з упрыгожанай ялінкай пасярэдзіне, а вось бялюткія анёлы, якія размясціліся на шкле вялікіх вокнаў і нягучна спяваюць, а вось вялікі асабняк, вокны якога халодна пазіраюць на ціхую вуліцу, а з гэтай хаты гучна даносяцца "пачварныя гукі, пакельныя енкі"...

Касцёл. У яго мы не пойдзем, бо наш знаёмы ведае, якая мітусня там сёння. Мы стаім каля ўвахода, слабенькі марозік трошкі кранае нас за нос і за вушы. А з Божага храма даносіцца святочная песня. Рэдкія сняжынкі падаюць на твар і адразу ж знікаюць, неба становіцца бліжэй і цяплей. Дзіцячыя галасы вырываюцца з будынку, дакранаюцца да нас, ляцяць у вышыню, залятаюць у кожную хату, застаюцца у кожным сэрцы, робяцца сапраўдным упрыгажэннем маленькага горада. Вось ён, момант шчасця і чысціні! Вось яно, свята! Перад вачыма па чарзе праплывае ўсё пабачанае намі: жалабок, святочныя агеньчыкі, упрыгожаныя ялінкі, вяночкі на дзвярах... І не гасне надзея на наступны год пабачыць яшчэ больш упрыгожаных вуліц, дамоў і... людзей.

Радасць у сэрцы гарыць...

**Яна Шыдлоўская**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

*У якасці віншавальнага падарунка даўні сябар музея, навуковец з Гродна, член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар Андрэй Майсяёнак даслаў каштоўны экспанат – папяровы пакуначак 1920-30-х гадоў з лагатыпам аптэкі Ст.Жаўняровіча ў Друі.*




*Пад кіраўніцтвам мінскага мастака Уладзіміра Кандрусевіча была зроблена батлейка, якая ў святы выстаўлялася каля касцёла ў адным з мінскіх раёнаў Серабранка. Батлейка зманціравана на імправізаваным вазе і выраблена ў традыцыях беларускага народнага мастацтва. Удзел у аздабленні некаторых персанажаў батлейкі ўзялі браслаўскія майстры Т.Ундруль і І.Шыдлоўская.*



Вітаўт Ермалёнак

# Па берагах Павянужкі: экспедыцыя «Арганаўтаў мінулага»

Кожны год археолага-краязнаўчы гурток "Арганаўты мінулага" Мёрскага Дома дзіцячай творчасці праводзіць грунтоўную экспедыцыю ў які-небудзь куточак нашага раёна. Так адбылося і ў гэтым годзе. Яшчэ на працягу вясны і пачатку лета сябры гуртка, вучні сёмага класа СШ №3 г.Мёры, удзельнічалі ў разведках ў наваколлі Мёраў, дзе знайшлі шмат цікавага, але марылі аб далёкай вандроўцы. Месца для яе падказаў яшчэ два гады таму апошні ўладальнік сядзібы Павянужкі Міхал Пранеўскі, які зараз жыве ў Варшаве. Ён апавядаў аб цікавым пагорку пад назвай "Лучкі". Аб старажытнасці тых мясцін сведчыць і вядомы археалагічны помнік селішча жалезнага веку "Ліпанты", і тры валуны-пісанікі, якія знаходзіліся ў гэтых мясцінах яшчэ ў XIX стагоддзі. Вялікую дапамогу гурткоўцам аказала настаўніца СШ №3 г.Мёры Матэленак Вера Савельеўна, якая шмат апавядала аб Пякоціне, Ліпантах, бо тут нарадзілася і вырасла. Вера Савельеўна і правяла гурткоўцаў да цікавых месцаў, параіла, да каго мы можам звярнуцца. Разбіўшы лагер, "арганаўты" адразу прыступілі да мэтанакіраванага пошуку. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы (палі зараслі травою і збажынай) шукальнікі ўжо праз некалькі гадзін былі ўзнагароджаны знаходкамі. Старэйшы гуртковец, Ермалёнак Антон знайшоў некалькі крамянёвых скрабкоў 3-4 тыс. да н.э. Гэтыя апрацаваныя прылады працы пераканаўча сведчылі аб існаванні паселішча часоў неаліту на паўночны захад ад вёскі Пякоціна, ў мясцовасці пад назвай Поплавы. Сябра гуртка Масленік Антон знайшоў прама на полі медную расейскую манету, якой каля 200 год. Астатнія знаходкі менш цікавыя – фрагменты керамікі XVIII – XX стст.

Наша наступная задача была вывучэнне мясцовасці, дзе знаходзілася сама сядзіба Павянужка. Па вядомых нам дакументах, упершыню яна згадвацца ў пачатку XIX ст. як маёмасць Яна Русецкага, які набыў гэтыя землі, купіўшы закладную паперу ў графа Плятэра. Пасля пажару новыя будынкі былі ўзведзены ў 60-я гады XIX ст. і праіснавалі каля 100 год. Маючы перад сабою старадаўнія здымкі сядзібы, мы пачалі абследаваць мясцовасць. Цяжка прыйшлося "арганаўтам". Крапіва, быльнёг і хмызнякі вышэй чалавечага росту схавалі месца колішняй дагледжанай мясцовасці. З цяжкасцю мы адшукалі падмуркі і сутарэнні сядзібнага дому. Ад прыгожай сібірскай таполі XIX ст. застаўся толькі абгарэлы ствол. Праўда, захавалася яшчэ некалькі звычайных таполяў, якія былі высаджаны вакол альтанкі і зараз яшчэ ўтвараюць маляўнічае відовішча. З трох сажалак засталася толькі адна, а калісьці ўладальнікі маёнтка гадавалі тут рыбу на продаж, эфектыўна дзейнічала сістэма шлюзаў. Падчас шурфоўкі былі знойдзены разнастайныя матэрыялы, жалезныя вырабы, фрагменты керамічнага і шклянога посуду, але ўсе знаходкі датуюцца пачаткам XIX ст. Тым самым нам не ўдалося "састарыць" сядзібу ў Павянужках.

Наступная задача – вывучэнне мясцовых могілак з мэтай адшукаць магілы бацькоў гісторыка і дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў міжваенны перыяд – Шкілёнка Мікалая Восіпавіча. І зноў расчараванне. Нягледзячы, што "арганаўты" прачыталі кожны надпіс на ўсіх помніках,



**Сядзіба Павянужка. Фотаздымак пач.XX ст.**

надмагілляў бацькоў М.Шкілёнка не знайшлі. Хутчэй за ўсё, на іх магілах былі звычайныя драўляныя крыжы, пасля таго, як яны спарахнелі, магілы сталі невядомымі. Але затое пашчасціла адшукаць надмагілле яго брата Пятра Восіпавіча. А вось ў хмызняку могілак гурткоўцы сапраўды зрабілі адкрыццё, знайшоўшы камень са старажытным надпісам і мальтыйскім крыжам пачатку XIX стагоддзя, што сведчыць аб існаванні тут ў гэтыя часы ўніяцтва.

Пасля невялікага адпачынку мы пачалі апытанне мясцовых старажылаў аб мінулым. Перш завіталі да самай старой ў вёсцы Пякоціне жанчыны – Шкілёнак Пелагеі Вітальеўны, 1910 года нараджэння. Яна, нягледзячы на паважаны ўзрост, змагла ўспомніць пра працу пры Польшчы ў сядзібах Рыжмонты і Павянужка, іх клопаце аб працаўніках у гаспадарцы маёнтка. Яна згадвала, што плацілі за працу па тых часах добра, не тое, што пазней ў калгасе. Ды вось толькі ўпраўляючыя Сіняўскі і Сарока былі надта строгія. Пашкадавала жанчына добрых гаспадароў, якіх ў 1940 г. шмат вывезлі ў Сібір. Паміж іншымі былі названы прозвішчы Крупко з Рыжмонтаў, Музурэвіча з Гаравых, леснікоў Воронька, Місьніка.

Але найбольш пазнавальнай была для нас сустрэча з Зуевіч (Кодзіс) Зояй Фёдараўнай, 1925 года нараджэння.Трагічна склаўся лёс яе бацькоў ў гады вайны. Бацька, Фёдар Зуевіч, быў удзельнікам яшчэ першай сусветнай вайны, трапіў у палон, але быў вызвалены з лагера, бо выратаваў дачку начальніка таго лагера, якая ледзь не патанула. Яму нават далі ўзнагароду – прыгожы гадзіннік. У 1941 г. ён перавозіў праз Дзвіну параненых чырвонаармейцаў, за гэта і быў забіты. А ў 1943 г. у Дзісне была расстраляна і маці – Любоў Герасімовіч 1902 г.н. разам з сястрой Вольгай 1910 г.н. за сувязь з партызанамі. Сама Зоя таксама удзельнічала ў партызанскім руху: была разведчыцай і сувязной 4-й Беларускай брыгады, атрада імя Горкага. Менавіта яна папярэдзіла партызан, даведаўшыся аб пачатку наступлення

немцаў у маі 1944-га. Прамчаўшыся верхам на кані, Зоя паспела апярэдзіць карнікаў і партызаны змаглі падрыхтавацца да бою. Падчас блакады яна была побач з камандзірам Зыранавым і толькі цудам на балоце Ельня ўдалося выратавацца ад палону і смерці. Партызаны некалькі дзён без ежы і вады (была толькі балотная вада) хаваліся глыбока ў мох, але вытрымалі. Ды толькі вось афіцыйна, пакуль што, Зоя Фёдараўна не атрымала пасведчанне партызана.

Гутарка з цікавым суразмоўцам была карысна і таму, што яна расказала і аб Восіпу Шкіленку, аб яго вучобе ў Віленскім універсітэце і грамадскай дзейнасці ў міжваенныя гады. Жанчына паказала месца, дзе была яго бацькоўская хата, дзе прайшлі дзіцячыя гады нашага выдатнага земляка. Пасля вайны ён быў расстраляны і нават брат Пятро, так і не даведаўся пра яго лёс. Зоя Фёдараўна апавядала гурткоўцам і пра Барысавы камяні. Апошні з іх быў узарваны ўжо ў 50-я гады XX ст. А яшчэ на яе памяці, на Купалле збіралася моладзь на лодках з Балотак і Пякоціна і палілі там вогнішча, спявалі купальскія песні, а дзяўчаты пускалі ў раку Дзвіну вянкі. Гэты расказ яшчэ раз даказвае аб існаванні першапачатковых язычніцкіх вераванняў у нашых продкаў, звязаных з камянямі-пісанікамі. Дарэчы, мясцовае насельніцтва называла іх "пісарамі". Памеры каменя паміж Балоткамі і Павянужкай былі такія, што на ім маглі размясціцца і конь і фурманка. З трох камянёў, якія былі тут, ацалеў толькі адзін, самы меншы, які быў вывезены яшчэ ў 1878 годзе ў Маскву, дзе і знаходзіцца ў музеі-запаведніку "Каломенскае".

Зоя Фёдараўна расказала і мясцовае паданне аб пагорку Лучкі. Быццам даўным-даўно праязджала нейкая каралева ў залатой карэце, карэта перавярнулася і каралева ўтапілася, а на тым месцы ўтварыўся востраў. Гэты расказ яшчэ больш пераканаў краязнаўцаў у тым, што Лучкі з'яўляюцца археалагічным помнікам.

У вёсцы Пякоціна мы адшукалі, напэўна, самую старую хату, якая захавалася ў нашым раёне. Апошнім яе гаспадаром быў Шкілёнак Міхаіл Лук'янавіч (1914-1992). Яго бацька Лук'ян памёр ва ўзросце 90 гадоў у 1936 г., а дом збудаваў яго прадзед. Значыць, па самых сціплых падліках будынку не менш за 200 год. Здзіўляюць тоўстыя маціцы столі, бярвенні будынка апрацаваны сякерай без пілы, вялікая печ ў хаце, ад кожнай рэчы патыхае даўнінай. Зараз хата выкарыстоўваецца пад дачу, жывуць у ёй гараджане з Полацка толькі летам.



**Самая старая хата Мёршчыны. Фрагмент інтэр"еру.**

Наступны дзень быў прысвечаны вандроўцы на месца былой сядзібы Рыжмонты Апошнім гаспадаром яе быў прафесар батанікі Варшаўскага ўніверсітэта Стэфан Крупко. Ён удзельнік вайны 1920 г., за якую быў ўзнагароджаны ордэнам Вірытуці Мілітары. Жонка яго памерла ў Палесціне ў 1943 годзе, а прафесар з дачкой Ірынай трапіў у Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку, адтуль пасля вайны ў Польшчу, дзе разам з дачкой працягваў працу ва ўніверсітэце. Смерць іх абодвух была трагічнай. Як і Павянужка, прыгожая калісьці сядзіба парасла быльнягом і хмызняком. Але краязнаўцы адшукалі падмуркі, правялі даследаванне, шурфоўку мясцовасці. Знойдзеныя фрагменты кафлі, керамікі, парцэляны, чарапіцы – пераканаўча сведчаць, што першы сядзібны дом існаваў тут яшчэ ў XVII ст., другі пабудаваны ўжо ў XIX ст. Захаваліся і рэшткі парка, ў асноўным ліпы, клёны, дубы, якія нават зараз уяўляюць маляўнічае відовішча. Вельмі зацікавілі нас і тры ліпы, якія як бы растуць з аднаго кораня, хутчэй за ўсё пасаджаны гаспадаром Крупко, як сімвал сваёй сям'і.

Наступнае даследаванне для гурткоўцаў было бадай найбольш цяжкім за ўсю вандроўку – вывучэнне старых каталіцкіх могілак ў Рыжмонтах. Выпрабаванні неслі перш за ўсё вялікія мурашкі, якія былі паўсюдна, камары, ды ў дадатак і зараснікі крапівы. Самі могілкі, дзе не адбываюцца пахаванні яшчэ з часоў апошняй вайны, уяўляюць сабою жахлівае відовішча. Прыгожыя помнікі павалены, магілы даўно ўжо раскапаны "скарбашукальнікамі". Прачытаць надпісы на надмагіллях, каб скласці ўяўленне аб гісторыі нашай мясцовасці не толькі ў XIX ст. было вельмі цяжка. Па-першае, многія помнікі трэба было падняць, а гэта не так і проста (гранітныя валуны важаць да паўтоны), па-другое – надпісы на многіх амаль не прачытаць, бо камень пад уздзеяннем прыродных з'яў разбурыўся. Па-трэцяе, многія напісаны скорапісам на польскай і лацінскай мовах. Усяго расшыфравалі 48 прозвішчаў з 53. Першыя пахаванні адносяцца да XVIII ст. Многія імёны дазваляць удакладніць генеалогію шляхецкіх родаў Міёршчыны. Напрыклад, мы прачыталі гады жыцця Эвеліны Святаполк-Мірскай, што дазволіць удакладніць гэты радавод. Мы даведаліся, што тут быў пахаваны Ян Агінскі са славутага роду Агінскіх, прэзідэнт Дзісенскага павета XIX ст. Станіслаў Кажанеўскі. Асабліва вялікія і багатыя помнікі на магіле ўладальніка Рыжмонтаў XIX ст. Юзэфа Крупко, яго жонкі Гэлены і іх дзяцей. Радавод Свідэрскіх, Лісоўскіх, Астроўскіх, пахаваных на могілках, вядомы ў нашым краі з XVI стагоддзя.

Да вайны на могілках знаходзілася і цікавая капліца, пабудаваная ў стылі класіцызму ў сярэдзіне XIX ст. Яна падзяліла лёс могілак, разбурана пасля вайны. Гурткоўцам засталося толькі вызначыць месца яе знаходжання, памеры, час яе пабудовы. Капліца была пабудавана з цэглы і каменю памерамі 5 х 6 метраў, звонку і знутры атынкавана, мела мураваны ўваход 2 на 3 метры, чатырохсхільны дах, пакрыты дахоўкай чырвонага колеру. Дарэчы, такой самай дахоўкай быў пакрыты і маёнтак.

На апошні дзень мы пакінулі вывучэнне вусця ракі Павянужка, пагоркаў з назвамі Лучкі і "Барані рог". Даследаванне рэчышча ракі не прынесла якіх-небудзь цікавых знаходак. Замест фрагментаў керамікі ранняга жалезнага веку траплялася ганчарная, якая была не старэй XVI ст. Але тут нам і пашчасціла. Прама ў рэчышчы ляжаў вялікі валун памерам 2 на 3 метры. Хутчэй за ўсё, ён знаходзіўся на

беразе ракі Павянужкі, але калісь вада падмыла бераг і ён абрынуўся ўніз. Праўда, на ім мы не адшукалі літар, затое знайшлі паглыбленне дыяметрам да 1 метра, глыбінёй 30 см. Падчас падзення амаль з 20 метровага адхону камень разламаўся, але паглыбленне пераканаўча сведчыць, што гэта быў камень-ахвярнік. Тут старажытныя людзі прыносілі ахвяры язычніцкім багам. Такім чынам, знойдзены краязнаўцамі камень-ахвярнік пацвярджае гіпотэзу аб першапачатковым язычніцкім характары Барысавых камянёў.

Уважліва прагледзелі гурткоўцы і цікавыя пагоркі. Стромкія валы іх вышынёй ад 8 да 16 метраў сведчаць, што ў часы ранняга жалезнага веку тут былі гарадзішчы-сховішчы, дзе людзі толькі хаваліся пад час небяспекі, але не жылі увесь час. Таму мы і не адшукалі рэштак культурнага пласта. Густая трава і быльнёг перашкаджалі правесці больш дэталёвую разведку, але я думаю асноўнае вызначэнне "арганаўты мінулага" ужо зрабілі – насельніцтва стала жыло на селішчы Ліпанты.


Валун-ахвярнік на беразе Павянужкі

Пад час вандроўкі было знойдзена і шмат этнаграфічнага матэрыялу, у тым ліку і панская калыска 20-х гадоў XX ст., кнігі на польскай мове, старыя здымкі, прадметы кавальства пачатку XX ст. Многія экспанаты вандроўкі зоймуць пачэснае месца ў будучым этнаграфічным музеі СШ №3.

Вольга Мезіна

# У ПОШУКАХ АДМЕТНЫХ КАМЯНЁЎ

Ужо другі год вучні нашай Опсаўскай сярэдняй школы прымаюць удзел у праекце, ініцыіраваным Браслаўскім музейным аб'яднаннем і краязнаўцамі Канстанцінскай БШ – пошук рэдкіх валуноў, цікавых сваімі памерамі, легендамі, з імі звязанымі, ці выбітымі на іх знакамі для абвешчання іх помнікамі прыроды.

Справа гэта аказалася няпростай, патрабуючай спецыяльных ведаў і практычных навыкаў, але вельмі захапляючай і цікавай. Удзельнікі экспедыцыі павінны быць камунікабельнымі, каб распытаць як мага больш жыхароў, назіральнымі. Так, напрыклад, год таму, летам, мы так і не трапілі да валуна "Каменная дубіца", што размешчаны непадалёку ад в.Дубраўка. Пабаяліся ісці ў тое месца, дзе па аповядам мясцовых жыхароў "вельмі многа змей водзіцца, і яны клубкамі вісяць на галінах дрэў каля гэтага камня." "Не хадзіце вы туды, дзеткі," – папярэджвалі нас сердабольныя бабулькі. На самой справе ўсё гэта аказалася ў значнай ступені перабольшваннем, і гэты цікавы валун быў пазней абследаваны і апісаны вучнямі Канстанцінскай БШ.

Чатырохдзённая экспедыцыя гэтага лета аказалася больш удалай. Мы набылі вопыт па абследаванню валуноў. Была ўдакладнена інфармацыя аб Оплiскім Вялікім камені і аб Сарокінскім валуне, размешчаным ля "напалеонаўскай" дарогі недалёка ад в. Малькі. Жыхар в.Малькі Пушкель І. К. распавядаў, што ў дзяцінстве яму дзяды расказвалі, што пад каменем закапана золата. Яму нават тры разы пра гэта золата сніўся сон. Кажуць, на полі, недалёка ад каменя, 3 дні стаялі войскі Напалеона і потым там была бітва. Жыхарка хутара Сарокіна (прыблізна 1928 г. н.) расказала, што яна любіць гэты камень. Калі-нікалі падыходзіць да яго і размаўляе з ім: "Ну, як ты, камушак? Стаіш тут адзін, і я вось адна. Пагавару з ім, і мне лягчэй становіцца." Раней, калі да яе прыязджалі родныя, то ля гэтага каменя збіраліся на свята Яна ў ноч на 24 чэрвеня.

У нас мелася палярэдняя інфармацыя, што ў гэтых месцах размешчаны яшчэ адзін камень, на якім Напалеон абедаў. Але ніхто з апытаных жыхароў вёсак Верды, Малькі, Яя ні пра якія другія камяні, акрамя Сарокінскага, нічога не чулі. Ёсць вялікая верагоднасць, што апісаны камень і ёсць той, на якім Напалеон абедаў, хаця па знешнім выглядзе ён мае авальную форму. Камень, безумоўна, мае гісторыка-культурную каштоўнасць, бо даволі вялікі (даўжыня 2,85 м) і цікавы легендамі, з ім звязанымі.

Пры апытанні жыхароў вёсак Кірыліна і Опліса мы вызначылі, што частка камянёў была варварскі знішчана ў час меліярацыі прыблізна ў 70-я гады: закапаны ці ўзарваны. Так, каля вёскі Кырыліна, ля развілкі на в. Опліса да 1983 года ляжаў вялікі камень, ля якога ўся вёска збіралася раз у год святкаваць Яна. У час будоўлі дарогі камень спіхнулі бульдозерам у яму і закапалі. (інфарматары: І.Ц.Субота, Г.Ц.Субота – жыхары вёскі Опліса)


Оплiскі Вялікі камень. *Фота В.Вінакурава*

Але самай цікавай знаходкай аказалася гісторыя, якую расказала жыхарка в. Яя, якая не пажадала назваць сваё прозвішча:

"Калі я была маладая, убачылі мы з мужыком як каля вузкакалейкі ў правале расла яблынька, уся ў кветках. Увосень на яблынцы саспелі два яблыкі, ды такія смачныя і сакавітыя. Вырашылі мы перасадзіць гэту яблынку да сябе ў гарод, што і зрабілі. Пасля гэтага мужык мой здурнеў. Стаў шмат піць. Ноччу драты сабе на шыю закідваў і спрабаваў задушыцца. Потым казаў, што яго чорт душыць. Вырашыла я завесці мужыка да ксяндза. Завялі матацыкл, выехалі за дом – матацыкл заглох. Даехалі на аўтобусе да Друі, але на лодцы не паплылі, адчувалі, што патопіць чорт, паплылі на пароме. Прыйшлі ў Краславу да касцёла – касцёл зачынены. Вярнуліся назад, паехалі на другі дзень у Слабодку. Там касцёл таксама на замке, а ксёндз – на гародзе. Знайшлі ксяндза і сказаў ён, што яблынку трэба вярнуць на старое месца. Вярнуліся дамоў і перасадзілі туды, дзе яна адразу расла. Пасля гэтага мне тры разы сніўся сон, што пад яблынкай клад зарыты, і я яго цяпер магу забраць. Але я ўжо туды не пайшла. З мужыком усё наладзілася і да цяперашняга часу жывем добра. А яблынка і той пагорачак зніклі."

Гэты аповед і сама расказчыца нас вельмі уразілі. Цяжка знайсці гэтаму тлумачэнне.

Нягледзячы на неспрыяльнае ўмовы: нас застаў і моцны лівень, і град памерам з лясны арэх сама экспедыцыя ўсім спадабалася.

# На выставе "Браслаўшчына" у Гданьску

10 лістапада ў памяшканні Этнагарфічнага музея, які з'яўляецца філіялам Гданьскага Нацыянальнага музея, адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "Браслаўшчына". Адкрыццю папярэднічала вялікая праца па збору экспанатаў, якую правяла загадчыца музея Вікторыя Бляхарская, якая мае браслаўскія карані. Вялікі ўклад у арганізацыі выставы належыць Яну Кляновічу (Джону Конраду) з ЗША. Ён сабраў унушальны фотаархіў па гісторыі Браслаўшчыны XX стагоддзя і перадаў яго на захаванне ў Гданьск.

Пэўную дапамогу ў афармленні экспазіцыі аказала і Браслаўскае музейнае аб'яднанне. Дэлегацыя браслаўскіх музейшчыкаў па запрашэнні арганізатараў прымала ўдзел у імпрэзе. Адкрыццё прайшло вельмі ўрачыста. На ім прысутнічала каля 200 чалавек. Былі хвалюючыя прамаўленні, артыстычная частка (у тым ліку слова трымала дырэктар Браслаўскага музейнага аб'яднання Галіна Падалян, а Валеры Зінкевіч выканаў пад гуслі дзве беларускія народныя песні). Наведвальнікам запомніўся пачастунак з традыцыйнымі для Браслаўшчыны стравамі.

Сама выстава змяшчае пераважна матэрыялы перыяду 20-30-х гадоў XX стагоддзя. Экспануюцца таксама акварэлі Напалеона Орды, карціны Пётры Сергіевіча, бюст Ю.Пілсудскага працы А.Карнага, комплекс "Сялянская хатка", выданні, прысвечаныя Браслаўшчыне. Экспанаты для выставы прадставілі 6 музеяў у Польшчы, Браслаўскае музейнае аб'яднанне, 37 прыватных асоб. Экспазіцыя атрымалася вельмі змястоўнай і цікавай.

Браслаўская дэлегацыя знаходзілася ў Гданьску некалькі дзён, мела сустрэчы з браслаўцамі, з прадстаўнікамі беларускай дыяспары, азнаёмілася з горадам і яго музеямі (увесь час дэлегацыяй апекаваўся выдатны знаўца Гданьска Гжэгаж Невядомы, а беларускія мясціны горада паказвала Алена Глагоўская, старшыня беларускага таварыства "Хатка", даўні сябар нашага музея).

Пасля Гданьска выстава "Браслаўшчына" пераедзе ў Варшаву. Вікторыя Бляхарская плануе арганізаваць пры Этнаграфічным музеі архіў матэрыялаў па гісторыі Браслаўшчыны. Арганізатары выставы выпусцілі грунтоўны інфарматар, аб якім раскажам асобна. Пра імпрэзу даволі падрабязна напісалі Алена Глагоўская ў беларускім выданні "Czasopis" (Беласток), № 12, 2004 г. і Ежы Жураўскі ў выданні "List Brasiawski".

## Выдавецкія навіны




Інфарматар "Браслаўшчына. Крэсы крэсаў II-й Рэчыпаспалітай" быў падрыхтаваны спецыяльна да адкрыцця выставы ў Этнаграфічным музеі ў Гданьску. Гэта сапраўдная кніга (мае больш за 100 старонак), якая ўключае тэксты сямі аўтараў. Укладальнікам інфарматара з'яўляецца аўтар выставы Вікторыя Бляхарская, яна ж напісала прадмову, слова пра выставу і замалёўку пра Браслаўшчыну ў перыяд 20 – 30-х гадоў XX стагоддзя. Яе тэксты напісаны з вялікім замілаванне да зямлі продкаў. Грунтоўны нарыс "Браслаў. Браслаўская зямля. Гісторыя да 1920 года" напісаў прафесійны гісторык Гжэгаж Невядомы. Шкада толькі, што аўтару былі недаступны матэрыялы археалагічных даследаванняў помнікаў Браслаўшчыны, новыя архіўныя пошукі беларускіх гісторыкаў і краязнаўцаў. Іх аналіз дазволіў бы ўзбагаціць тэкст, пазбегнуць некаторых недакладнасцей. Значную частку кнігі займаюць успаміны тых людзей, якія нарадзіліся на Браслаўшчыне і з'яўляліся сведкамі розных гістарычных падзей: Яна Кляновіча, Ежы Жураўскага, Яніны Гелерт, Міхаіла Мілінкевіча, Ванды Рожак. У дадатках ёсць матэрыялы пра важнейшыя мясцовасці і маёнткі Браслаўшчыны.

Кніга змяшчае шмат фотаздымкаў, сярод якіх ёсць вельмі каштоўныя ў гістарычным, краязнаўчым плане. Вокладка выдатна аздоблена фотаздымкам Сяргея Плыткевіча (Мінск) з відам на возера Недрава і вёску Слабодку.

Інфарматар "Браслаўшчына" з'яўляецца не толькі добрай памяткай наведвальніку выставы, але і зойме годнае месца сярод гістарычных выданняў, прысвечаных Браслаўшчыне.

* * *

Алена Глагоўская, якая жыве ў Гданьску, а працуе ў Беластоцкім універсітэце, перадала ў Браслаўскае музейнае аб'яднанне сваю новую кнігу "Беларусы на Гданьскім узбярэжжы" (выпушчана выдавецтвам "Адам Маршалак" у Торуні ў 2003 годзе). Падарунак суправаджае аўтограф аўтара: "Браслаўскаму музейнаму аб'яднанню і яго апантаным дзеячам з найлепшымі пажаданнямі і надзеяй, што і вам у Браславе мая кніга спатрэбіцца". Кніга сапраўды патрэбная і на Браслаўшчыне, бо ў ёй змешчаны грунтоўныя артыкулы, прысвечаныя нашым землякам Мікалаю Дварэцкаму (1903 – 1988 гг.) з мястэчка Іказнь, беларускаму дзеячу, паэту, і Андрэю Вангіну-Блажэвічу (1895 – 1977 гг.) з мястэчка Відзы, беларускаму акцёру. Дарэчы, у папярэдніх нумарах "Павета" былі змешчаны матэрыялы пра гэтых дзеячаў, друкаваліся вершы М.Дварэцкага, падавалася інфармацыя пра адкрыццё надмагільнага помніка А.Вангіну. У кнізе А.Глагоўскай можна азнаёміцца не толькі з больш грунтоўнымі біяграфічнымі матэрыяламі пра нашых землякоў, але і даведацца пра іх дзейнасць на Балтыйскім узбярэжжы Польшчы ў кантэксце прысутнасці там беларусаў.




А.Глагоўская з 1993 года ўзначальвае Беларускае культурнае таварыства "Хатка" у Гданьску і з'яўляецца самым дасведчаным знаўцам беларускіх слядоў у Гданьскім рэгіёне. У кнізе аўтар падае асобныя раздзелы, прысвечаныя дзейнасці беларусаў у даваенны і ваенны перыяды, пасляваенныя гады, змяшчае гісторыю Беларускага грамадска-культурнага таварыства (1967 – 1992 гады), агляд дзейнасці таварыства "Хатка" у сучасных умовах. Выданне багата ілюстравана. Яно будзе карысным для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Беларусі, у прыватнасці Браслаўшчыны.

Ад Веры Балодэ, з якой даўно супрацоўнічае музей і выданне "Павет", прыйшло выданне "Память о Родине". Гэта зборнік вершаў і прозы, выдадзены сродкамі аператыўнай паліграфіі. Аўтар пастаянна жыве ў Рызе, падоўгу бывае ў дачкі ў Краснадары, але ніколі не забывае сваю маленькую радзіму – Браслаў, шануе Беларусь. Звяртаючыся да Беларусі напачатку кнігі В.Балодэ піша: "...Ты самая любимая в моём сердце! Ты вырастила меня и дала мне силы. Жестокая судьба меня безжалостно забросила на чужбину. Но я остаюсь с тобой и до конца своей жизни буду тебе верна!.."

У зборніку вершы розных гадоў, напісаных у Рызе, Маскве, Краснадары. Многія з іх звернуты да Браслава, яго гісторыі ("Любимый город мой, Браслов!", "Браслов", "Не троньте нас!", "У могилы", "Последний путь"). Усе творы В.Балодэ прасякнуты душэўнымі перажываннямі, любоўю да людзей, да навакольнага свету. Празаічныя творы – гэта кароценькія расказы, заснаваныя на рэальных падзеях, якія добра вядомы аўтару.

"Память о Родине" В.Балодэ – для тых, хто ўмее, як і аўтар, верыць, спадзяецца, моцна любіць і застаецца неабыякавым.

*Выдавецкія навіны*

## Новае выданне аб Дзісенскай гімназіі

У апошні час аб Дзісенскай гімназіі было шмат публікацый – В.Каўчынскай ў раённай газеце, М.Вазгірда ў у кнізе "Памяць", Э.Забеллы ў грунтоўным выданні "Дзісна – бастыён над Дзвіной". А зараз ў Польшчы з'явілася найбольш поўнае даследаванне Зофіі Іскерскай "Дзяржаўная гімназія і агульнаадукацыйны ліцэй ў Дзісне імя Г.Пірамовіча".

Кніга было падаравана ў музей СШ № 3 г.Міёры Б.П.Мураўскай. Аўтар манаграфіі - дачка першага дырэктара гімназіі Тадэвуша Станеўскага. Даследаванне складаецца з васьмі раздзелаў, у якіх расказваецца аб узнікненні школы і гімназіі,а потым і ліцэя. Падрабязна апісаны ўмовы жыцця, вучобы і сацыяльнай апекі вучняў. Аўтар дае характарыстыку кола настаўнікаў, расказвае аб методыцы выкладання. У асобных раздзелах апавядаецца аб выхаванні ў гімназіі, культурна-асветніцкай дзейнасці, стварэнні вучнёўскіх арганізацый, занятках спортам. Апошні раздзел ўтрымлівае звесткі аб падзеях пасля 17 верасня 1939 г., лёсе настаўнікаў і вучняў гімназіі. Каштоўнасць выдання і ў тым , што ў ім змешчана безліч здымкаў выкладчыкаў , гімназістаў, горада Дзісны. Зофія Станеўска склала асобныя спісы выпускнікоў і вучняў гімназіі за ўсе гады навучання, прасачыла лёс некаторых з іх, што вельмі важна для далейшай пошукавай і краязнаўчай работы. Асноўнай крыніцай для нап-сання сталі справаздачы гімназіі ў 1921–1933 гадах, якія захоўваюцца зараз у архіве бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта, за пазнейшыя гады выданні "Нашага глосу" – часопіса, які выдавалі вучні Дзісненскай гімназіі, ўспаміны яе выпускнікоў Ю.Буйноў-скага, Э.Забэлы, А.Федуковіч-Пальчэўскай, Б.Табэрскай, М.Мацько, В.Вярховіч-Каўчынскай, В.Квітнеўскай, С.Андрушкевіча. Вялікае значэнне мелі матэрыялы, сабраныя былым выпускніком гімназіі ксяндзом Ю.Буёнкам, заўчасная смерць якога перашкодзіла напісаць яму кнігу аб Дзісненскай гімназіі.

Выданне З.Станеўскай-Іскерскай вартае для перакладу на беларускую мову, каб пазнаёміць з гэтым цікавым даследаваннем больш шырокае кола аматараў гісторыі роднага краю.

*В.Ермалёнак*



## *Сярэднія школы Прыдзвіння*

У Торуньскім выдавецтве "Mado" выйшла кніга Каміла Кшэмінскага "Сярэднія школы Прыдзвіння. 1919–1939" (K.Krzemiński. Skoły ponadpodstawowe Naddżwinia. 1919–1939. Mado.Toruń.2004.520 s.). У Браслаў асобнік кнігі трапіў дзякуючы Вітольду Годыцкаму з Вроцлава.

Аўтар К.Кшэмінскі нарадзіўся ў 1923 г. ў Ваўкавыску. Перад вайной вучыўся ў Крулсўшчыне і Глыбокім. Па спецыяльнасці фармацэўт. Гістарычныя даследаванні – гэта яго хобі. Манаграфія пра школы Прыдзвіння – вынік шматгадовых пошукаў і працы ў бібліятэках, архівах, прыватных зборах. Аўтар, перад тым як пісаць пра канкрэтную навучальную ўстанову, спрабуе даць гістарычную характарыстыку рэгіёна. Адпаведныя часткі ў кнізе – самыя слабыя. Тэкст утрымлівае шмат недакладнасцей. Напрыклад, незразумела чаму Браслаўскі павет аднесены да Дзісеншчыны, на некалькіх старонках кароткай гісторыі Браслава і Браслаўшчыны – дзесяткі памылак і недакладнасцей, адносна беларускага руху і беларускай асветы аўтар дазваляе сабе вульгарны падыход на ўзроўні прапагандысцкіх схемаў "савецкага ўзору": калі, напрыклад, тыя ж 20–30-я гады ХХ ст. называліся перыядам буржуазна-памешчыцкага прыгнёту белапанскай Польшчы. На шчасце, сур'ёзныя беларускія даследчыкі даўно адышлі ад такіх схем. Пакінем абразлівы тон аўтара кнігі на сумленні гісторыка-аматара.

Манаграфія найперш цікава тым фактaлагічным матэрыялам, які аўтар сабраў па гісторыі канкрэт-ных навучальных устаноў. Каля 40 старонак прысвечана Браслаўскай прыватнай гімназіі і каля 50 – Друйскай гімназіі пры кляштары айцоў марыянаў. Друйская гімназія дзейнічала пад апекай марыянаў, якія лічылі сябе беларусамі. Мовай навучання была польская, але дэмакратычная атмасфера спрыяла і фарміраванню ў часткі вучняў беларускай свядомасці. Аўтар зноў вульгарна падыходзіць да нацыянальных асаблівасцей гімназіі, ужываючы выразы накшталт "насельніцтва, так званае беларускае", і робячы навуковыя адкрыцці аб тым, што палова жыхароў Беларусі – гэта рускія, а каля Сожа і на ўсход жылі польскія плямёны радзімічаў і вяцічаў (!). У кнізе шмат яшчэ такіх "перлаў". Так што чытаць яе трэба ўважліва і ўдумліва.

Погляд на многія моманты гісторыі ў беларускіх і польскіх гісторыкаў ніколі не будзе аднолькавым – гэта нармальна і натуральна. Але ў гістарычных працах трэба паважаць другі бок. На шчасце, сур'ёзныя беларускія і польскія даследчыкі адмовіліся ад спрашчэння ідэалагічных схемаў мінулага. Хацелася б верыць, што такія манаграфіі, як праца К.Кшэмінскага, будуць рэдкімі выключэннямі. Выключэннямі, якія, на жаль, хаваюць у сабе небяспеку распальвання недаверу і варожасці паміж народамі.

*К.Шыдлоўскі*

## Успаміны крэсавяка




Можна павіншаваць жыхара Варшавы Аляксандра Шэмеля з выхадам у свет чарговай кнігі "Успаміны крэсавяка з часоў вайны" (першая кніга А.Шэмеля "23-я Браслаўская партызанская брыгада Арміі Краёвай" была надрукавана ў 2002 г.). Кнігу выпусціла сталічнае выдавецтва "ЛосьГраф" у другой палове 2004 г. 24 кастрычніка ў Варшаўскім Доме "Палонія" адбылася ўрачыстая яе прэзентацыя. Асобнік выдання даслаў у Браслаў Юзэф Далецкі з Жэшува.

Аўтар успамінаў нарадзіўся ў 1924 г. ў вёсцы Думарышкі, што непадалёку ад Плюсаў. Вучыўся ў Браслаўскай гімназіі, у гады другой сусветнай вайны змагаўся ў шэрагах 23-й Браслаўскай брыгады АК. З 1946 г. жыве ў Варшаве. Атрымаў юрыдычную адукацыю ў Варшаўскім універсітэце. З 1960 г. ўдзельнічае ў мужчынскім хоры "Арфа", з якім аб'ездзіў большасць краін Еўропы. Успаміны напісаны ў 1968 г. і з тае пары чакалі свайго часу.

А.Шэмель не прэтэндуе на званне гісторыка, яго кніга – гэта аповяд чалавека пра тое, што ўбачана і перажыта. Падобныя мемуарныя творы заўсёды глыбока суб'ектыўныя. А.Шэмель належыць да пакалення, якое зведала велізарныя змены ў жыцці сваёй Бацькаўшчыны і з вялікім болем гэта перажывае. Боль і смутак чытач адчуе на многіх старонках успамінаў. Адмысловае ў кнізе – мноства падрабязнасцей аб жыцці Браслаўшчыны ў апошнія перадваенныя гады, падзеях перыяду гітлераўскай акупацыі. Падаюцца яны жывым стылем, чытаюцца лёгка. Кніга багата ілюстравана. Ёсць каляровыя здымкі сучаснай Браслаўшчыны, сям'і аўтара, чорна-белыя архіўныя здымкі, замалёўкі самога аўтара. Пры аздабленні ўжыты сюжэты з камплекта "Гісторыя Браслава ў малюнках", які быў выпушчаны Браслаўскім краязнаўчым таварыствам (малюнкі В.Зінкевіча, тэкст К.Шыдлоўскага). Шкада толькі, што пры рэпрадуцыраванні аўтар і выдавецтва не палічылі патрэбным даць спасылку на гэта выданне.

**«ПАВЕТ» DISTRICTUS**

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)